СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.58, 18.33, 12.35;
Віцебск — 5.47, 18.24, 12.36;
Магілёў — 5.47, 18.28, 12.35;
Гомель — 5.43, 18.20, 12.37;
Гродна — 6.11, 18.50, 12.39;
Брэст — 6.15, 18.48, 12.33.

МЕСЯЦ:
Апошняя квадра 26 сакавіка.

ІМЯНІНЫ:
Нічыпара, Цярэнція, Аляксандра, Хрысціны; Тодара.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

26 САКАВІКА 1992 г. чацвер, № 62 (21840)

## РОЗГАЛАС

### УЛАСНІКАМІ ЖАДАЮЦЬ БЫЦЬ УСЕ.

**Але далёка не ўсе жадаюць імі станавіцца за ўласныя грошы**

**Экспрэс-апытанне на тэму «Як вы ставіцеся да абмяркоўваемага на сесіі нашага Вярхоўнага Савета праекта закона аб прыватызацыі?»**

**Алена ЛІТВІНАВА, журналіст рэспубліканскага радыё:** Нешта пэўнае сказаць пра прыватызацыю ў нас вельмі складана. Асабіста ж мяне гэтая з'ява мала датычыцца — няма грошай. Але для некаторых людзей гэта не перашкода. Я рыхтую цяпер матэрыял аб тым, як кіраўнікі аднаго з раёнаў Беларусі праводзілі прыватызацыю па-свойму. Мне здаецца, што такіх фактаў цяпер набярэцца безліч. і што мы, журналісты, проста павінны гаварыць праўду людзям, у якіх ужо склаўся пэўны стэрэатып праводзімай прыватызацыі.

**Аляксандр АНІСІМАЎ, працаўнік аднаго з мінскіх малых прадпрыемстваў:** Справа, безумоўна, патрэбная і своечасовая. Але мне здаецца, спачатку трэба было прымаць адпаведныя законы, а ўжо потым пачынаць гэтую справу. Нехта ўжо мае сваё жыллё, офіс, магазін, цырульню і г. д. А я, напрыклад, не ведаю, ці магу я валодаць нечым большым, чым, напрыклад, аўтамабіль. Далей: усё збіраюцца вызначыць прыватызацыйную долю кожнага жыхара рэспублікі, але нешта ўсё цягнуць і цягнуць. Вызначаць, мусіць, тады, калі рубель ужо будзе нічога не варты.

**Святлана АЗАРЭВІЧ, прадаўшчыца:** Канешне, ёсць жаданне купіць акцыі свайго магазіна, калі яго будуць прыватызаваць. Але грошай не хапае. У маіх сябровак іх таксама не вельмі багата. Уся надзея на крэдыт ці нейкія сертыфікаты, якія абяцаюць даць кожнаму. Што ж датычыцца распрацоўваемага закона, дык патрэба ў ім даўно наспела. Галоўнае тут, каб нас не купілі жыхары з іншых рэспублік, каб беларусы самі валодалі сваёй маёмасцю.

**Алесь БЕЗВЯСЕЛЬНЫ, маёр:** Не да жыру. У гэтай сітуацыі застацца б неяк пры справе — абароне сваёй Радзімы. Што датычыцца асабіста мяне — жаданне валодаць нерухомасцю ёсць, хоць і няшмат уласных сродкаў. Калі людзі валодаюць нечым, яны і адказнасць адчуваюць адпаведную. На мой погляд, многае залежыць ад законаў па прыватызацыі, якія прымаюцца.

**Падрыхтаваў апытанне Аляксандр КОКТЫШ.**

### І БЕЛАРУСАЎ СВЕТ ПАЗНАЕ

Нядаўна ў Францыі пабывала дэлегацыя асацыяцыі «Бел Франс», якую ўзначальваў народны дэпутат рэспублікі Уладзімір Новік.

У час візіту адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый у Францыі, а таксама з французскімі палітыкамі і бізнесменамі. Кіраўнікі асацыяцыі падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве з Саюзам беларусаў Францыі «Хаўрус», утвораным нашымі суайчыннікамі яшчэ ў 1931 годзе.

Акрамя таго, было адкрыта прадстаўніцтва «Бел Франса» ў Парыжы.

**Мікалай ДЗЯБЁЛА.**

## Законапраект аб праве ўласнасці на зямлю: куранят вырашылі лічыць увосень

Як і трэба было чакаць, пры абмеркаванні праекта Закона аб уласнасці на зямлю, акрэсліліся два лагеры. Як заўсёды, перакрыжаваліся думкі апазіцыі, якая прадставіла свой альтэрнатыўны праект, і прыхільнікаў дзяржаўнасці, дакладней, саўмінаўскага праекта.

Адразу скажу, што ні першы, ні другі праекты прыняты не былі: парламент, які дагэтуль прымаў закон за законам ледзь ці не «аўтаматам», — спыніўся і задумаўся. Дарэчы, было аб чым.

Безумоўна, абодва законапраекты заслугоўваюць увагі, адрозніваючыся адным карэнным палажэннем — падыходам да форм уласнасці. У праекце ўрада чорным па беламу напісана: ёсць тры формы — дзяржаўная, калектыўная і прыватная. Вызначэння ўласнасці калектыўнай, між тым, няма. Дапускаю, што і быць не магло, бо такі феномен ніколі і не існаваў.

Як правільна заўважыў дэпутат Новікаў, калектыўная ўласнасць — гэта не форма, а від. Калгас, кааператыў, садовае таварыства — віды землекарыстання. Формы ж — дзяржаўная і прыватная. Здаецца, многія прамоўцы, асабліва практыкі-аграрнікі, блытаюцца ў юрыдычных тэрмінах і паняццях. Застаецца яшчэ раз пашкадаваць, што Вярхоўны Савет — не прафесіянальны.

А сапраўды, што такое калектыўная ўласнасць? Пяцёра-шасцёра валодаюць зямлёй, але хто канкрэтна: Лукашэнка, Шушкевіч ці Трусаў? І як яны вырашаюць узнікаючыя праблемы? А раптам Лукашэнка скажа: зямля мая? Дарэчы, гэты дэпутат ледзь не кожнае выступленне пачынае са слоў «мая гаспадарка». На што дэпутат Трусаў пры абмеркаванні заўважыў: «Вось у гэтым і корань, што Лукашэнка лічыць калектыўную гаспадарку сваёй». Доля ісціны тут, безумоўна, ёсць, як і ва ўрадавым праекце, соль якога — падтрымаць і захаваць калгасна-саўгасную сістэму, надаўшы калектыўнай уласнасці законнасць.

Так, кормяць нас пакуль што калгасы — тут ніхто не спрачаецца. Але гэта не значыць, што калектыўная ўласнасць існуе і што цяперашняя апаратыўная перадача калгасам зямлі ў бестэрміновае карыстанне — гэта правільна. На жаль, толькі аднойчы была ўпамянута прапанова дэпутата Папкова: мець на ўвазе дзве формы ўласнасці — прыватную і дзяржаўную, зямлю перадаць Саветам, а калгасам — браць яе ў арэнду.

Сюды ж трэба дадаць заўвагу дэпутата Зверава: калектыў — юрыдычная асоба, але выдзяляць долю любому яго члену ўсё-такі можна, а тады з'яўляюцца ўжо 2 суб'екты адной і той жа ўласнасці. Як гэта зразумець?

Каб пераканацца, што ВС ні ў якім выглядзе не прыме праект апазіцыі, можна было і не хадзіць на пасяджэнні. Але палітыка, як вядома, майстэрства кампрамісаў. І заставалася спадзявацца толькі на яго. Ва ўсякім разе гэта больш дыпламатычна, чым чысты правал альтэрнатыўнага праекта. За час да восеньскай сесіі ўсё можа змяніцца, і самыя асцярожныя дэпутаты прызнаюць, што калектыўнай уласнасці няма-такі.

Праект апазіцыі прапануе ўсім пачаць з чыстага ліста: і прыватнікам, і калгасам. Зямля пераходзіць пад юрысдыкцыю дзяржавы, вы можаце яе купіць ці атрымаць (як вырашаць), ці ўзяць у арэнду. Пасля гэтага, калі ласка, даказвайце эфектыўнасць свайго рашэння. Інакш кажучы, свабода, канец прыгоннага права, чаго не гарантуе праект урада.

Не першы раз у нас праводзяцца зямельныя рэформы, і ўсё неяк няўдала. Нават сталыпінская памылялася адносна кола суб'ектаў прыватызацыі. Напрыклад, па Пятру Андрэевічу зямлю не маглі атрымаць беззямельныя, а гэта нарадзіла перадавы атрад кастрычніцкага перавароту—люмпенаў. Праект апазіцыі гэты момант, я думаю самы важны, улічвае.

Як заўсёды, некаторым дэпутатам мроіліся мафія, зямельныя камерсанты і акулы капіталізму, якія скупяць няшчасную беларускую зямлю. Маю на ўвазе артыкул з альтэрнатыўнага праекта, дзе гаворыцца аб магчымасці куплі зямлі замежнымі інвестарамі. Дарэчы, артыкул сапраўды быў некалькі няясны, і апазіцыя яго наогул зняла. Між тым, продаж і арэнда зямлі замежнай кампаніяй з мэтай забудовы—агульнапрыняты парадак. Да таго ж, як нагадаў дэпутат Садоўскі, адсутнасць у праекце такога артыкула супярэчыць прынятаму ледзь ці не аднагалосна (і нядаўна) Закону аб замежных інвестыцыях. Такім чынам, ёсць падазрэнне: не ўсе дэпутаты чытаюць законы, якія прымаюць. Сумна.

А ўвогуле аптымізм захоўваецца. Вярхоўны Савет прыняў рашэнне ўхваліць у першым чытанні праект аграрнай камісіі, апублікаваць абодва праекты, закон дапрацоўваць і абмяркоўваць у другім чытанні ўжо восенню. Можна лічыць, што прыхільнікі рэформ не прайгралі. Хоць і не перамаглі.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

### Аб выбранні першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Кузняцова** Вячаслава Мікалаевіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

24 сакавіка 1992 г.
г. Мінск.

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

### КУЗНЯЦОЎ Вячаслаў Мікалаевіч

Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Шчыброва Маскоўскай вобласці. Рускі. Адукацыя вышэйшая. У 1970 годзе закончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Спецыяльнасць па адукацыі радыёінжынер-тэхнолаг.

Пасля заканчэння інстытута працаваў інжынерам на Мінскім прыборабудаўнічым заводзе імя Леніна. Быў на камсамольскай і партыйнай рабоце. У 1989 годзе абраны старшынёй выканаўчага камітэта Савецкага раённага Савета народных дэпутатаў г. Мінска. З 1991 года — старшыня раённага Савета.

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.

Народны дэпутат Савецкага раённага Савета народных дэпутатаў г. Мінска.

## Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

### Аб парадку вылічэння часу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць, што на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь адлік часу робіцца па міжнароднай сістэме гадзінных паясоў і пераводам штогод гадзіннікавай стрэлкі ў апошнюю нядзелю сакавіка ў 2 гадзіны на адну гадзіну ўперад і ў апошнюю нядзелю верасня ў 3 гадзіны на адну гадзіну назад.

2. Міністэрствам, ведамствам, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому забяспечыць своечасовую распрацоўку і выкананне неабходных мерапрыемстваў для пераходу да парадку вылічэння часу ў адпаведнасці з гэтай пастановай.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. КАЎКО.**

## ЛЫЖКА ЎКРАІНСКАГА ДЗЁГЦЮ

**ПІНСКІ РАЁН (С. Шапіра). Відаць, праблемы рыначнай эканомікі аднымі з першых адчулі на сабе... пчолы.**

**У пачатку гэтага года прадстаўнік кіеўскага вытворчага хіміка-фармацэўтычнага аб'яднання «Дарніца» нанёс дзелавы візіт у Пінск і прапанаваў мясцовым пчалаводам высокаэфектыўны прэпарат «Іаскан». Гэта — біястымулятар, які надае сілы аслабленай пчоласям'і, павышае ўстойлівасць да захворванняў, а галоўнае — у паўтара раза павялічвае мёдапрадукцыйнасць. Прэпарат распрацаваў навуковы калектыў Інстытута біяхіміі АН Украіны.**

Пінскае таварыства пчалаводаў узяло на сябе распаўсюджванне цуда-стымулятара. Было сабрана 3.730 рублёў. Заставалася толькі пазваніць у Кіеў і папрасіць даставіць абяцаныя ампулы. На наступны дзень украінскі госць быў у Пінску. Замест рублёў, якія быццам бы выйшлі на Украіне «з моды», пінчанам было прапанавана расплаціцца натурай: мёдам і вуллямі. Зразумела ж, такі бартэр аказаўся для пчалаводаў непрымальным. А ў выніку пацярпелі пчолы.

## «МЫ ВЫМУШАНЫ ПАТРАБАВАЦЬ...»

Плошча Незалежнасці перад Домам урада, дзе праходзіць чарговая сесія Вярхоўнага Савета, з раніцы выглядала пустой. А ўжо ў адзінаццатай гадзіне тут пачалі збірацца жанчыны, якія прыехалі з усіх абласцей рэспублікі па запрашэнню Камітэта салдацкіх маці. «Мы патрабуем стварэння прафесіянальнай арміі, стварэння следчай групы, якая зможа перагледзець справы салдат, скончыўшых жыццё самагубствам», — вось змест галоўных патрабаванняў жанчын, сыны якіх у мірны час загінулі ў войску.

— Калі прыехалі за сынам, нам нават не далі машыны, каб адвезці труну з целам дадому, — гаворыць Ганна Ісакаўна Марчалона. — Як хочаце перавозьце, ваенную тэхніку мы вам не дадзім. Такі адказ далі мне ў ваеннай часці. Божа мой, ці можна ж да нас з такой абыякавасцю адносіцца.

— Прыкра, — гаворыць сакратар Камітэта салдацкіх маці Таццяна Падпорынава, — але сёння мы вымушаны патрабаваць ад Вярхоўнага Савета выплаты кампенсацый па міжнародных нормах з улікам інфляцыі. Ні ў адной цывілізаванай краіне няма такога, каб маці, сын якой загінуў у арміі, хадзіла, плакала і патрабавала нейкія кампенсацыі. У нас жа гэта звычайная справа. Ні на пахаванне, ні на помнікі кампенсацый не даюць.

Агульная бяда сабрала гэтых жанчын сёння на плошчы. У кожнай — фатаграфія сына, якога чакала з войска пасталелым юнаком, а замест таго дачакалася дамавіны. У вачах боль і абурэнне.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**
**Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

## Аб размерах дзяржаўных стыпендый навучэнскай моладзі ва ўмовах лібералізацыі цэн

**У выкананне пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 лютага 1992 г. № 108 Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ:**

Зацвердзіць і ўвесці з 1 сакавіка 1992 г. новыя размеры дзяржаўных стыпендый:

1. У вышэйшых навучальных установах:

паспяваючым студэнтам у размеры 440 рублёў у месяц, у тым ліку тым, хто мае толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 500 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 570 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, знаходзіліся пад апекай (папячыцельствам) і дасягнулі 18-гадовага ўзросту да 1.03.91 г., не атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых (згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 5.02.91 г.) і выхоўваліся ў сем'ях сваякоў, якія не афармілі апеку, а таксама дзецям ваеннаслужачых, што загінулі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, — у размеры 580 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 640 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 710 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, апекуноў (папячыцеляў), знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, — у размеры 360 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 420 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 490 рублёў у месяц.

Студэнтам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, знаходзяцца на выхаванні ў апякунскіх (прыёмных) сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу і атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых, стыпендыі выплачваюцца на агульных падставах;

студэнтам, якія знаходзяцца ў адпаведнасці з рашэннямі ўрада на поўным дзяржаўным забеспячэнні, у размеры 180 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 240 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 310 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку воінаў-інтэрнацыяналістаў у размеры 540 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 600 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 670 рублёў у месяц, з іх тым, што знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, — адпаведна 340, 400 і 460 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 670 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 730 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 800 рублёў у месяц. Указаным студэнтам, што знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, — адпаведна 410, 470, 530 рублёў у месяц;

студэнтам Героям Савецкага Саюза і Героям Сацыялістычнай Працы ў размеры 760 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі — 820 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 890 рублёў у месяц;

студэнтам, якія вучацца па спецыяльнасці 01.01 «Матэматыка» ў дзяржаўных універсітэтах, 01.02. «Прыкладная матэматыка», 01.03 «Механіка», 22.04 «Праграмнае забеспячэнне вылічальнай тэхнікі і аўтаматызаваных сістэм», 06.09 «Эканамічная кібернетыка», у размеры 550 рублёў у месяц, незалежна ад курсу навучання, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 610 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 680 рублёў у месяц;

студэнтам за асаблівыя поспехі ў вывучэнні асобных дысцыплін і навукова - тэхнічнай творчасці можа ўстанаўлівацца персанальная стыпендыя савета ВНУ ў размеры 580 рублёў у месяц;

слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў у размеры 300 рублёў у месяц;

слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, знаходзіліся пад апекай (папячыцельствам) і дасягнулі 18-гадовага ўзросту да 1.03.91 г., якія не атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых (згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі ад 5.02.91 г.) і выхоўваліся ў сем'ях сваякоў, што не аформілі апеку, а таксама дзецям ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, 400 рублёў у месяц;

слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, апекуноў (папячыцеляў) і знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, 250 рублёў у месяц;

імянныя стыпендыі ўсіх відаў — 750 рублёў у месяц;

аспірантам вышэйшых навучальных устаноў стыпендыі выплачваюцца ў размеры службовых акладаў (ставак) спецыялістаў, якія яны атрымлівалі да паступлення ў аспірантуру; аспірантам, паступіўшым на вучобу непасрэдна пасля заканчэння навучальнай установы, і замежным аспірантам стыпендыі выплачваюцца ў размеры службовых акладаў (ставак) адпаведных спецыялістаў без катэгорыі. Аспірантам, якія паступілі ў аспірантуру да 1.03.92 г., стыпендыя выплачваецца ў размеры службовых акладаў (ставак), устаноўленых з 1.03.92 г. па адпаведных пасадах;

дактарантам выплачваецца стыпендыя ў размеры службовага акладу, які яны атрымалі да паступлення ў дактарантуру. Асобам, паступіўшым у дактарантуру да 1.03.92 г., размеры стыпендыі ўстанаўліваюцца на ўзроўні службовых акладаў, што ўводзяцца з 1.03.92 г. па тых пасадах, на якіх яны працавалі да паступлення ў дактарантуру.

2. Студэнтам і навучэнцам, якія праходзяць ваенную падрыхтоўку ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах па праграме афіцэраў запасу, устанаўліваецца надбаўка да стыпендыі ў наступных размерах:

— студэнтам, якія не прайшлі абавязковую ваенную службу, — 30 рублёў у месяц;

— студэнтам, якія прайшлі абавязковую тэрміновую ваенную службу, — 45 рублёў у месяц;

3. У сярэдніх спецыяльных навучальных установах:

паспяваючым навучэнцам у размеры 385 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 430 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 480 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, знаходзіліся пад апекай (папячыцельствам) і дасягнулі 18-гадовага ўзросту да 1.03.91 г., не атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых (згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 5.02.91 г.) і выхоўваліся ў сем'ях сваякоў, не афарміўшых апеку, а таксама дзецям ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 580 рублёў, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 640 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 710 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, апекуноў (папячыцеляў), знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, у размеры 310 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 355 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 405 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, знаходзяцца на выхаванні ў апякунскіх (прыёмных) сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу і атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых, стыпендыі выплачваюцца на агульных падставах;

навучэнцам, якія знаходзяцца ў адпаведнасці з рашэннямі ўрада на поўным дзяржаўным забеспячэнні і навучэнцам I і II курсаў вучылішчаў алімпійскага рэзерву, у размеры 160 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 205 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 255 рублёў у месяц;

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## АФІЦЫЯЛЬНЫ АДДЗЕЛ

## Колькі адпускных абавязаны нам налічыць?

**У 5-м пункце нядаўняй пастановы Савета Міністраў Беларусі «Аб дадатковых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва ў сувязі з лібералізацыяй цэн» устаноўлена, што пры ажыццяўленні ўсіх выплат на аснове сярэдняга заработку апошні павінен вылічвацца з улікам новых службовых акладаў (тарыфаў). Прычым указаны пункт уводзіцца ў дзеянне з 1 студзеня.**

**Аднак у чытачоў з'явіліся пытанні: як канкрэтна, у якіх сумах ім будуць выплачвацца, зыходзячы з таго ж сярэдняга заработку, адпускныя, дапамога па беспрацоўю і ўсе іншыя выплаты, якім чынам будзе ўстанаўлівацца гэты сярэдні заработак?**

**Сёння мы даём адпаведнае тлумачэнне Дзяржкампрацы і Мінфіна.**

Усе выплаты работнікам, якія ажыццяўляюцца на аснове сярэдняга заработку (аплата адпачынкаў, за выкананне дзяржабавязкаў, выхадная дапамога і г. д.) робяцца на аснове сярэдняй заработнай платы, налічанай ва ўстаноўленым парадку за папярэдні перыяд, з прымяненнем каэфіцыента, налічанага прапарцыянальна росту тарыфнай стаўкі, акладу па адпаведнай прафесіянальна-кваліфікацыйнай групе.

Прыклад. Рабочаму, занятаму на работах з нармальнымі ўмовамі працы, прадастаўлены адпачынак працягласцю 24 рабочыя дні з 3 сакавіка г. г. Месячная тарыфная стаўка складала ў сакавіку 1991 г. — 225 рублёў, у маі — 270, у чэрвені — 415, у кастрычніку — 450, у снежні — 900, у лютым 1992 г. — 1.400 рублёў.

Для вызначэння сумы адпускных сярэднямесячная заработная плата вылічваецца за перыяд сакавік 1991 г. — люты 1992 г. Папраўчныя каэфіцыенты, вылічаныя прапарцыянальна росту тарыфнай стаўкі, устаноўленай з 1 лютага 1992, складаюць:

| | | |
|---|---|---|
| да тарыфнай стаўкі ў лютым 1992 г. | —1,0 | (1.400) |
| студзені 1992 г. | —1,55 | (1.400:900) |
| снежні 1991 г. | —1,55 | (1.400:900) |
| лістападзе—кастрычніку 1991 г. | —3,11 | (1.400:450) |
| верасні—чэрвені 1991 г. | —3,37 | (1.400:415) |
| маі 1991 г. | —5,18 | (1.400:270) |
| красавіку—сакавіку 1991 г. | —6,22 | (1.400:225) |

Пры налічэнні адпускных неабходна мець на ўвазе, што ва ўсіх выпадках сярэднямесячная сума прэмій, якая ўлічваецца ў сярэднямесячным заработку да пачатку перыяду адпачынку, застаецца без змен.

Налічэнне адпускных вядзецца наступным чынам:

| | Фактычна налічаная зарплата | Каэфіцыент налічэння прапарцыянальна росту зарплаты | Зарплата з улікам каэфіцыента | Акрамя таго, прэмія | Усяго заработнай платы з улікам прэміі |
|---|---|---|---|---|---|
| За студзень 1992 г. | 1.155 | 1,55 | 1.790-25 | 619 | 2.409-25 |
| люты 1992 г. | 1.631 | 1 | 1.631 | 1.421 | 3.052-00 |
| сакавік 1991 г. | 537 | 6,22 | 3.340-14 | — | 3.340-14 |
| красавік 1991 г. | 507 | 6,22 | 3.153-54 | 104 | 3.259-54 |
| май 1991 г. | 394 | 5,18 | 2.040-92 | 119 | 2.159-92 |
| чэрвень 1991 г. | 772 | 3,37 | 2.601-54 | 168 | 2.769-64 |
| ліпень 1991 г. | 227 | 3,37 | 764-99 | 123 | 887-99 |
| жнівень 1991 г. | 488 | 3,37 | 1.644-56 | 96 | 1.740-56 |
| верасень 1991 г. | 796 | 3,37 | 2.682-52 | 257 | 2.939-52 |
| кастрычнік 1991 г. | 890 | 3,11 | 2.767-90 | 247 | 3.014-90 |
| лістапад 1991 г. | 750 | 3,11 | 2.332-50 | 264 | 2.596-50 |
| снежань 1991 г. | 1.626 | 1,55 | 2.520-30 | 686 | 3.206-30 |

Сярэднямесячны заработак 31.376-26:12=2.614-68

Адпускныя складуць 2.614-68: 25,4=102-94×24=2.470-57.

У такім жа парадку робіцца выплата захоўваемага сярэдняга заработку на перыяд працаўладкавання работнікаў, звольненых па арт. 33, п. 1 КЗаП (ліквідацыя прадпрыемства, установы, арганізацыі, скарачэнне колькасці і штату работнікаў), а таксама ажыццяўляецца вызначэнне сярэдняй зарплаты для назначэння дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі асобам, якія праходзяць прафесіянальную падрыхтоўку і перападрыхтоўку, павышаюць кваліфікацыю па накіраванню дзяржаўнай службы занятасці.

Дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі, назначаныя да 1 студзеня 1992 г., пералічваюцца і выплачваюцца ў астатні перыяд іх атрымання, устаноўлены Законам «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь», зыходзячы з сярэдняй заработнай платы, прынятай пры іх назначэнні, павялічанай у тры разы (каэфіцыент-3).

**А. КОЗЕЛ, намеснік старшыні Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь.**

**М. КОРБУТ, намеснік міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь.**

# РОЗГАЛАС

## ВЯСНА ПРЫНОСІЦЬ НАДЗЕЮ

**Пытанне правядзення ў рэспубліцы веснавой сяўбы хвалюе сёння не толькі працаўнікоў вёскі, але і горада, кожнага з нас. Менавіта гэтай важнай, актуальнай тэме і была ўчора прысвечана прэс-канферэнцыя. На ёй намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Шаховіч адзначыў, што ў сувязі з мяса-малочнай спецыялізацыяй сельскай гаспадаркі, размяшчэннем буйных жывёлагадоўчых комплексаў давялося сутыкнуцца з сур'ёзнымі праблемамі забеспячэння іх камбікармамі. З-за разладжаных, ненадзейных кантактаў з былымі пастаяннымі партнёрамі адчувальна зменшылася пастаўка збожжа. Напрыклад, толькі сёлета за першы квартал яго недаатрымана 500 тысяч тон. У выніку знізіліся надоі, прывагі, зменшылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы, свіней, на бедным рацыёне апынулася птушкагадоўля.**

Усё гэта неабходна было прадбачыць. У рэспубліцы распрацавана праграма «Збожжа», якая ўжо выконваецца. Згодна з ёю, восенню на 70 тысяч гектараў расшыраны азімы палетак, а вясной на 170 тысяч стане большым яравы клін. Такія захады зроблены для таго, каб у агульным севазвароце збожжавыя склалі 53—54 працэнты.

А. Шаховіч расказаў таксама аб праграмах «Цукар» і «Алей». Імі прадугледжваюцца расшырэнне пасеваў цукровых буракоў, алейных культур, перш за ўсё рапсу, рэканструкцыя і будаўніцтва прадпрыемстваў па іх перапрацоўцы. Напрамак тут адзін — як мага больш і лепш выкарыстоўваць уласныя магчымасці ў вытворчасці гэтых неабходных людзям прадуктаў.

Што датычыцца пытання падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, то рамонт тэхнікі, забеспячэнне запчасткамі, засыпка насення выглядаюць нядрэнна. Створаны неабходныя запасы дызельнага паліва, гаруча - змазачных матэрыялаў. А вось з бензінам праблема, хоць яна таксама вырашаецца.

Натуральна, узнікла пытанне, што, калі для правядзення веснавой сяўбы калгасам і саўгасам будзе аддадзены ўвесь бензін, то ці не давядзецца аўтааматарам паставіць свае машыны на прыкол. Намеснік старшыні Дзяржкамнафтапрадукта В. Заранок запэўніў, што такога не здарыцца: праблем з пастаўкай бензіну для асабістага аўтатранспарту не будзе. Застаецца на яго і ранейшая цана.

А як да выхаду ў поле падрыхтаваліся фермеры?

— Фермерскіх гаспадарак, — адказаў міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Ф. Мірачыцкі, — у рэспубліцы ўжо каля тысячы. У іх распараджэнні 20 тысяч гектараў зямлі. Фермерам выдаткавана 200 мільёнаў рублёў на правядзенне меліярацыі, будаўніцтва дарог, электрыфікацыю. Акрамя таго, ім выдзелены для набыцця 1.200 трактароў, больш як 800 аўтамабіляў, мінеральныя ўгнаенні. Калі летась скаргаў ад іх хапала, то сёлета амаль няма.

На прэс-канферэнцыі выступіў таксама міністр хлебапрадуктаў М. Якушаў.

**Іван БРАЛКА,**
**кар. «Звязды».**

## ПРА ДЗЯЦЕЙ, ЯКІЯ НЕ НАРАДЗІЛІСЯ

**ТАЛАЧЫН (Т. Мактадуй). Звыш 800 абортаў. Такая сумная статыстыка ў раёне за два апошнія гады. Страшна падумаць, што на белы свет не з'явілася столькі дзяцей, загублена столькі жыццяў. А колькі страчана здароўя, колькі душэўных траўм?! Для кожнай паважаючай сябе жанчыны — гэта сапраўдная трагедыя, і рашаецца яна на такі ўчынак у крайнім выпадку.**

**У чым жа прычына? У працоўных калектывах пад мятлу ў апошні час у пераважнай большасці трапляюць асобы жаночага полу. Толькі ў студзені—лютым у раённы цэнтр занятасці ад іх паступіла 50 заяў аб працаўладкаванні.**

**З першым днём з'яўлення на свет нованароджанага ўзнікае пытанне, чым яго накарміць. Мацярынскім малаком зараз кормяць адзінкі. Ну, а дзіцяча-малочная кухня ў райцэнтры таксама нічога не можа прапанаваць немаўляці да двухмесячнага ўзросту. Сумесі не паступаюць ужо некалькі месяцаў.**

**Праблема нумар адзін—уладкаваць малога ў дзіцячы сад. На сённяшні дзень у гарсавеце ляжыць звыш 100 заяў. Усе тры дзіцячыя садкі горада перапоўнены. Тут зараз налічваецца 645 дзяцей замест 440 па норме. Вось і плануй сям'ю, думай пра дзяцей! За 1990—1991 гады ў раёне нарадзілася прыкладна столькі дзяцей, колькі іх не ўбачыла свет.**

## СЛЯПЯНСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

**Трагедыя, ад якой стыне кроў і халадзее сэрца: двое непаўналетніх — 9-гадовы брат і 6-гадовая сястра ў час гульні на лёдзе Сляпянскага ручая насупраць дома № 9 па завулку Клумава, праваліліся і пайшлі пад ваду. Іх удалося выцягнуць з вады, але малыя памёрлі ў машыне «хуткай дапамогі»... Мы выказваем глыбокае спачуванне бацькам трагічна загінуўшых дзяцей і зноў звяртаемся да ўсіх мінчан: будзьце надзвычай асцярожнымі на лёдзе, не падвяргайце сваё жыццё непатрэбнай небяспецы, асабліва беражыце дзяцей!**

## НА ПАПЕРЦІ РОБІЦЦА ЦЕСНА?

Цікава, што чым больш я жыву ў Беларусі, тым больш бачу спосабаў, якімі можна зарабляць на жыццё. Ужо ні ў кога не выклікаюць здзіўлення людзі, якія сядзяць з шапкамі ў падземных пераходах, музыканты, што знаходзяць свой кут на вакзале або пры ўваходзе ў метро, ці проста бабкі і дзяды, якія корпаюцца на сметніках. Але ў апошні час мяне здзівілі «паходы» некаторых «збяднелых» па вагонах метро.

**Абдул ХАМІД,**
**студэнт журфака.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### НЕ ПА-ЗЯМЛЯЦКУ НЕЯК

**Раскрыта злачынства, пра якое мы паведамлялі жыхарам адразу ж пасля дня 8 Сакавіка: махлярства ў адносінах да азербайджанца, у якога падманным шляхам укралі больш за 27 тысяч гваздзікоў. Злачынцы ўстаноўлены—яго ж землякі. Кветак, праўда, вярнуць пацярпеўшаму ўжо не ўдалося.**

### РЫБАК РЫБАКА...

А спачатку ж усё так добра пачыналася! Нездарма гавораць: «Рыбак рыбака здалёк бачыць!» Вось і ў нашым выпадку хутка знайшлі адзін аднаго ў шматтысячным натоўпе на Камароўскім рынку двое маладых мінчан і двое жыхароў г. Вільнюса. Нечым, напэўна, спадабаліся адзін аднаму з першага погляду, бо тут жа ўдарылі па руках: мінчане прапанавалі прадаць 400 долараў ЗША, літоўцы згадзіліся іх купіць па 123 рублі за «зялёненькі». Але, на жаль, здзелка не ўвянчалася поспехам — умяшаліся супрацоўнікі аддзела аператыўнага вышуку УУС Мінгарвыканкома: «павязалі» і прадаўцоў, і пакупнікоў. Цяпер прыйдзецца адказваць перад Законам. А спачатку ж усё так добра пачыналася...

### ЭХ ТЫ, ВОЛЯ ВЫПАДКУ!

**Трагедыя адбылася на адным са скрыжаванняў Слоніма. Вадзіцель машыны ГАЗ-53, гружанай газавымі балонамі, выехаў на чырвонае святло і сутыкнуўся з такім жа «газонам». Побач на веласіпедах праязджалі два падлеткі. Ад удару аўтамабіль, які парушыў правілы, перакуліўся прама на хлопцаў. У выніку 11-гадовы хлопчык загінуў, яго таварыш дастаўлены ў бальніцу з траўмамі.**

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### ЁСЦЬ ТАКІЯ ЖАНЧЫНЫ...

У зводцы здарэнняў па гораду Мінску паведамленне аб тым, як мінчанка С. Гаркавая затрымала ў сябе ў кватэры і здала з рук у рукі міліцыі раней неаднаразова судзімага З., які п'яным залез праз незачыненую аконную фортку з мэтай учыніць кватэрны грабеж. Больш бы такіх рашучых жанчын — глядзіш, і зменшылася б у сталіцы аматараў пажывіцца за чужы кошт!

ПОГЛЯД

## КРАСАВІЦКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ? БАРАНІ НАС БОГ!

Леанід Бірукоў не з'яўляецца народным дэпутатам СССР і на VI з'езд быў запрошаны, паводле яго слоў, ад грамадскіх арганізацый Беларусі. Ён — сведка і ўдзельнік падзей, што адбыліся 17 сакавіка ў Воранаве пад Масквой і на Манежнай плошчы. Падзей, якія маюць свой працяг, і гэта насцярожвае. Бо намер народных дэпутатаў аднавіць Савецкі Саюз з дапамогай арміі можа прывесці да цяжкіх вынікаў, і наўрад ці справа абыдзецца без крыві. А рашэнні дэпутатаў зводзяцца якраз да новай рэвалюцыі, якая, можна зрабіць вывад са слоў Л. Бірукова, адбудзецца, магчыма, нават у красавіку. Менавіта 6 красавіка намечана рашэннем VI з'езда народных дэпутатаў СССР склікаць VII з'езд. Галоўная яго задача — сфарміраваць саюзны ўрад. Гэтыя народныя выбраннікі, якія так лёгка, без бою і нават без больш-менш шумных спрэчак далі разагнаць сябе і адхіліць ад дзяржаўных спраў і абароны інтарэсаў народа ў жніўні мінулага года, зараз ачомаліся і захацелі зноў кіраваць краінай і весці народ да светлай будучыні з дапамогай былога ўрада СССР, новага саставу Прэзідыума ВС СССР і пад кіраўніцтвам адноўленай КПСС з вернутай ёй усёй былой маёмасцю. Менавіта такія рашэнні, як сведчыць Л. Бірукоў, былі прыняты на VI з'ездзе народных дэпутатаў СССР, які адбыўся 17 сакавіка ў Воранаве пад Масквой. Успомнілі, нарэшце, дэпутаты і пра непарушнасць рэферэндуму аб Саюзе ССР, які прайшоў 17 сакавіка 1991 года, і вырашылі адмяніць усе лакальныя і рэгіянальныя пратаколы, законы і пагадненні, якія супярэчаць вынікам рэферэндуму, у тым ліку і Белавежскія пагадненні, а таксама аднавіць СССР як дзяржаву. Таму чарговы VII з'езд будзе скліканы з мэтай сфарміраваць саюзны ўрад. Галоўнае толькі, каб на яго з'ехаліся ўсе народныя выбраннікі. Бо на VI з'ездзе іх было ўсяго 438 чалавек.

— На VII з'ездзе, — падкрэсліў Леанід Паўлавіч, — будзе таксама прынята рашэнне аб вызваленні арыштаваных у жніўні мінулага года членаў законнага ўрада СССР. Няхай тады Вярхоўны Савет СССР і вырашае, што з імі рабіць, а не Расія. 19 жніўня не было ніякага путчу. Янаеў законна ўзначаліў урад у адсутнасць прэзідэнта, і ён меў права аб'явіць надзвычайнае становішча. Путч адбыўся пазней, ля Белага дома. Яго арганізаваў Ельцын, які не захацеў падпарадкавацца ўраду. Вось ён і павінен быць асуджаны.

— Якім шляхам будуць вызвалены члены ўрада былога СССР?

— Законным. З'езд прыме такое рашэнне.

— Але ж, Леанід Паўлавіч, давайце глядзець на ўсё рэальна, з пазіцый сённяшняга дня. Няма ні Саюза, ні саюзных структур. Хто ж выканае рашэнне з'езда?

— У пастанове VI з'езда запісана: у сувязі са складанай палітычнай абстаноўкай даручыць выкананне прынятых пастаноў саюзным структурам, якія яшчэ захаваліся, — арміі і флоту. Ёсць Генеральны пракурор СССР, ёсць закон, і ўсё будзе зроблена ў межах закона.

Л. Бірукоў меў на ўвазе законы былога СССР і Канстытуцыю СССР 1977 года. Аднак няма ні СССР, ні яго ўрада, ні Вярхоўнага Савета. І зараз усе гэтыя з'езды — працяг спектакляў вядомага тэатра пад кіраўніцтвам Лук'янава з усё тымі ж дзеючымі асобамі. Народу яны ўжо надакучылі. І ён не хоча больш рэвалюцый.

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

## І ЗНОЎ ПРА БЕНЗІН

**ТАЛАЧЫН.** Тут 23 сакавіка на чыгуначнай станцыі пры праходжанні грузавога цягніка адбылася ўцечка 52 тон бензіну А1-93. Цыстэрна адчэплена. Месца ўцечкі абясшкоджана супрацьпажарнай тэхнікай. Затрымка руху цягнікоў склала 3 гадзіны.

# Аб размерах дзяржаўных стыпендый навучэнскай моладзі ва ўмовах лібералізацыі цэн

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

навучэнцам з ліку воінаў-інтэрнацыяналістаў у размеры 500 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 545 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 595 рублёў у месяц, з іх тым, хто знаходзіцца на дзяржаўным забеспячэнні, — 290, 335, 385 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 670 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 730 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 800 рублёў у месяц. Указаным навучэнцам, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна 410, 470 і 530 рублёў у месяц;

навучэнцам Героям Савецкага Саюза і Героям Сацыялістычнай Працы ў размеры 760 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 820 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 890 рублёў у месяц;

імянныя стыпендыі ўсіх відаў — 700 рублёў у месяц.

4. Глуханямым і сляпым студэнтам ВНУ і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў выплачваецца да ўстаноўленай стыпендыі надбаўка ў размеры 50 працэнтаў.

5. Дзяржаўныя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, якія заключылі індывідуальныя дагаворы, выплачваюць за кошт сваіх сродкаў паспяваючым студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, а таксама слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў пры ВНУ стыпендыю, павышаную не менш чым на 30 працэнтаў; пры стажы работы больш трох гадоў — не менш чым на 50 працэнтаў у параўнанні з размерамі дзяржаўных стыпендый, устаноўленых для адпаведных катэгорый навучэнцаў.

6. Выплачваць студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, якія знаходзяцца ў акадэмічным водпуску па медыцынскіх паказаннях, 50 працэнтаў дзеючых размераў стыпендый у месяц (без уліку павышэння за паспяховасць) на перыяд акадэмічнага водпуску за кошт сродкаў навучальнай установы (акрамя студэнтаў, навучэнцаў да 18 гадоў, якія атрымліваюць дапамогу).

7. У прафесіянальна - тэхнічных навучальных установах:

паспяваючым навучэнцам усіх тыпаў прафесіянальна - тэхнічных навучальных устаноў (акрамя рыхтуемых для работы ў сельскагаспадарчай вытворчасці, водагаспадарчым будаўніцтве і лясной гаспадарцы) з тэрмінам навучання не больш 10 месяцаў у размеры 275 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 305 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 340 рублёў у месяц, а навучэнцам з ліку дзяцей загінуўшых ваеннаслужачых і асоб, прыроўненых да інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны I і II груп, у размеры 300 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 330 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 365 рублёў у месяц;

паспяваючым навучэнцам пры падрыхтоўцы іх для работы ў сельскагаспадарчай вытворчасці, водагаспадарчым будаўніцтве і лясной гаспадарцы па прафесіях механізатараў з ліку асоб, якія закончылі сярэднія агульнаадукацыйныя школы і прайшлі ў іх навучанне аўтасправе, рабоце на трактарах, камбайнах і іншых сельскагаспадарчых машынах, а таксама асоб, звольненых у запас з Узброеных Сіл і залічаных пры чарговым прыёме ў гэтыя вучылішчы непасрэдна пасля звальнення ў запас, кваліфікаваных рабочых з ліку асоб, якія закончылі сярэднія агульнаадукацыйныя школы і вывучылі ў іх асновы жывёлагадоўлі і сельскагаспадарчай тэхнікі, з тэрмінам навучання менш 10 месяцаў у размеры 600 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 630 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 665 рублёў у месяц;

паспяваючым навучэнцам усіх тыпаў прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў з тэрмінам навучання не менш 10 месяцаў, якія ў адпаведнасці з рашэннямі ўрада забяспечваюцца абмундзіраваннем і харчаваннем, у размеры 135 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 165 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 200 рублёў у месяц; навучэнцам з ліку сямейных у размеры 175 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 205 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 240 рублёў у месяц; навучэнцам з ліку дзяцей загінуўшых ваеннаслужачых і асоб, прыроўненых да інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны I і II груп, у размеры 205 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 235 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 270 рублёў у месяц; навучэнцам з ліку сямейных у размеры 240 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 270 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 305 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў і знаходзяцца на выхаванні ў апякунскіх (прыёмных) сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу і атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых, выплачваецца стыпендыя на агульных падставах;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апякунства бацькоў, апекуноў (папячыцеляў), знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, у размеры 310 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 355 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 405 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 580 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 640 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 710 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку воінаў-інтэрнацыяналістаў у размеры 500 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 545 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 595 рублёў у месяц, з іх тым, хто знаходзіцца на дзяржаўным забеспячэнні, — адпаведна 290, 335 і 385 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 580 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 610 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 645 рублёў у месяц, з іх тым, хто знаходзіцца на дзяржаўным забеспячэнні, — адпаведна 390, 435 і 485 рублёў у месяц;

імянныя стыпендыі ўсіх відаў — 350 рублёў у месяц.

8. Стыпендыі грамадзянам замежных дзяржаў і дзяржаў СНД, якія вучацца ці праходзяць навукова - педагагічную стажыроўку ў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна - тэхнічных навучальных установах і навукова - даследчых установах, атрымліваюць стыпендыю за кошт бюджэту рэспублікі, выплачваюцца ў размерах, устаноўленых для студэнтаў і навучэнцаў Рэспублікі Беларусь.

Размеры стыпендый замежным грамадзянам, якія паступілі на вучобу пасля 1 верасня 1991 г., рэгулююцца дзяржаўнымі пагадненнямі.

9. Рэкамендаваць грамадскім арганізацыям, якія выплачваюць за кошт уласных сродкаў імянныя стыпендыі, перагледзець іх размеры.

10. Прызнаць страціўшымі сілу пастановы Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1991 г. № 32/1057, ад 20.01.92 г. № 2/55.

**Старшыня Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь**
**Г. П. БАДЗЕЙ.**
**Міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь**
**С. П. ЯНЧУК.**




## КАЛІ ЎМОВЫ СТАНОВЯЦЦА НЕВЫНОСНЫМІ—ВЫНОСІМ МЭБЛЮ!

Дзіўны выгляд набыў парадны ўваход у мінскую фотастудыю № 2 (гэта на скрыжаванні вуліц К. Маркса і Камсамольскай): на прыступках перад зачыненымі дзвярамі стаяць кліенты, уваход забарыкадаваны вынесеным з памяшкання прылаўкам, а побач праз фортку прыёмшчыца заказаў гучна аб'яўляе прысутным:

— Вашы фотакарткі зроблены, можаце забіраць. Новых заказаў не прымаем.

Трапіўшы ў фотастудыю праз службовы ўваход, я пацікавіўся, што здарылася.

— Наш калектыў аб'явіў акцыю пратэсту з элементамі акупацыйнай забастоўкі і галадоўкай, — растлумачыў Андрэй Нікалайчанка, былы загадчык фотастудыі, а сёння проста фатограф.

— Ці можна больш даступна растлумачыць вашу акцыю?

— Яе фармулёўка выпрацавана згодна з існуючымі міжнароднымі правіламі, і адступаць ад іх мы не станем: занадта моцны ўціск з парушэннем законаў зведвае наш калектыў. Так мы лічым. Варта было нам заявіць вышэйшаму начальству аб жаданні аддзяліцца ад арэнднага прадпрыемства «Вілія», каб стаць самастойнымі, як пасыпаліся ўсялякія праверкі. Мяне звольнілі з пасады загадчыка. Да нас вырашылі падсяліць нейкае невядомае нам сумеснае прадпрыемства, што азначае яшчэ больш пагоршыць умовы працы калектыву. За пагрозамі пачаліся канкрэтныя дзеянні: сёння кіраўнікі «Віліі» ўласнаручна ўнеслі у фотастудыю новы прылавак, нягледзячы на нашу нязгоду. Гэты прылавак мы вынеслі на вуліцу і на агульным сходзе калектыву вырашылі пачаць акцыю пратэсту. Відаць, не жадае адміністрацыя губляць тыя 25 тысяч, якія штомесяц уносіць у фонд прадпрыемства наш невялікі калектыў. Вось так і пачалася гэта гісторыя.

Перад выхадам нумара я пазваніў у фотастудыю і пацікавіўся, што змянілася за некалькі мінулых дзён. Фотамайстры галадаюць, але працуюць. Кіраўніцтва адмяніла (так паведамілі ў фотастудыю) свой загад аб падсяленні сумеснага прадпрыемства. Астатнія распараджэнні адміністрацыі, якія выклікалі пратэст калектыву, яшчэ дзейнічаюць.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## РУКУ НА ДРУЖБУ, ІЗРАІЛЬ!

**Вось і яшчэ адно таварыства ўзнікла на небасхіле грамадскага жыцця рэспублікі — «Беларусь—Ізраіль». Што гэта — заканамерны этап працэсу ўваходжання маладой дзяржавы ў міжнародную супольнасць ці «інтрыгі сусветнага сіянізму»? Наш карэспандэнт звярнуўся да віцэ-прэзідэнта вышэйназванага таварыства Лявона БАРШЧЭЎСКАГА, народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь.**

— Гэта грамадская арганізацыя нядаўна створана па ініцыятыве Таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Уключае людзей самых розных нацыянальнасцей, не толькі беларусаў і яўрэяў: кантакты — на міждзяржаўных асновах, не замыкаючыся наогул на міжнацыянальных. Прэзідэнцтвуе Леанід Левін, адзін з аўтараў Хатынскага мемарыяла.

Толькі ў Беларусі аналагічных таварystваў больш дзесяці — наладжаны адносіны з ФРГ, Іспаніяй, Францыяй, Фінляндыяй...

**— Стварэнне вашай арганізацыі — гэта...**

— Гэта неабходнасць часу. Даўно ўжо акрэсліліся аспекты цеснага ўзаемадзеяння дзвюх дзяржаў — эканоміка, навука, культура. У плане эканомікі ізраільцяне жадаюць і маглі б дапамагчы грошамі ці то ўстановам-прадпрыемствам, ці сваякам, якія засталіся тут. У навуцы можа адбыцца плённы ўзаемаабмен пэўнымі ведамі; адносна культуры — яўрэйская спадчына гадамі-стагоддзямі знішчалася, і наўрад ці знойдзецца ў Мінску дзесятак-два яўрэяў, якія ведаюць сваю родную, як лічыцца, мову — іўрыт. Неабходна яе вывучэнне, адраджэнне, іўрыт мае шанц на самастойнае жыццё, гэта багацейшая слоўнікавая крыніца. Кнігі, манаграфіі на іўрыце ёсць, нават па гісторыі Мінска, а вось знаўцаў — пашукаць. І тут неабходна супрацоўніцтва, узаемаўзбагачэнне.

Яшчэ адна з галоўных задач таварыства — зняць з Ізраіля кляймо пагардлівых адносін, падсвядомай іроніі. А Ізраіль — нармальная дзяржава, вылучаецца хіба тым, што там жыве шмат нашых былых суайчыннікаў.

**— Дарэчы, таварыства прымае ўдзел у жыцці тых, хто збіраецца пакінуць ці вось-вось пакіне Беларусь?**

— Не, гэта справа не наша.

**— Але ж выехаўшы ў Ізраіль, яны могуць быць і членамі таварыства?**

— Можа атрымацца і так. Мы не адмаўляем у супрацоўніцтве ні на нацыянальным, ні на прафесіянальным узроўні, але галоўнае для нас — грамадзянскі. Менавіта прапаноў такога плана мы і чакаем ад Ізраіля. І яны паступаюць. Ды і ў Ізраілі ёсць падставы для стварэння таварыства «Ізраіль — Беларусь». Арганізацыйная работа ў гэтым напрамку вядзецца ўжо. Лічу, што адным з першых паслоў, прызначаных у нашу рэспубліку, будзе пасол з Ізраіля.

**— Якія сродкі існавання таварыства?**

— Пакуль што ўсё на грамадскіх асновах. Шукаем спонсараў. Думаем, нам дапамогуць, і эканамічнае пытанне ў таварыства «Беларусь — Ізраіль» не будзе такім балючым, як у іншых — яўрэяў шмат, а роднае не ў цяжар...

**— У мінулым таварыства застаўся...**

— ...удзел у днях, прысвечаных ахвярам яўрэйскіх гета. Важна, каб людзі зразумелі, што гэта — бяда не толькі яўрэяў. Асабліва хвалюючым момантам было ўручэнне падарункаў беларусам, якія ў гады Вялікай Айчыннай вайны ратавалі яўрэяў ад расправы фашыстаў.

**— А ў будучым, займеўшы спонсара, а значыць, і грошы...**

— ...правядзём фестываль яўрэйскай і беларускай культур, як прапанавала ініцыятыўная група з Гомеля; зможам дапамагчы адправіць навукоўцаў ва універсітэты вывучаць яўрэйскую спадчыну, каб адрадзіць з цягам часу яўрэйскую культуру... Наогул, прапаноў шмат.

**Вяла гутарку**
**Ларыса ПРАЎЛОЦКАЯ.**

З ЗАЛЫ СУДА

# ФІРМЕННЫ ЛІМАНАД

**Такое можна пабачыць хіба што ў заходніх фільмах жахаў. Але гэта здарылася ў Мінску.**

У гарадскім судзе беларускай сталіцы справа ўжо разгледжана, вынесены прыгавор. Цяпер яна вывучаецца ў вышэйстаячых інстанцыях. Таму мы не можам пакуль што называць сапраўдныя прозвішчы і імёны ўдзельнікаў працэсу.

Ды і сутнасць не ў падобных падрабязнасцях. Галоўнае ў іншым — як магло такое здарыцца, дзе матывы цяжкага злачынства? Ёсць вялікая патрэба паразважаць менавіта над такімі пытаннямі.

Быў красавіцкі вечар. Сустрэліся двое. Амаль саракагадовы таксіст Андрэй і жыхар з Поўдня, Алік. Яны паспелі ўжо крыху пасябраваць. Вырашылі «раздавіць» бутэльку. Для настрою. Андрэй з гэтай нагоды запрасіў падскочыць да сястры Ірыны, якая жыве ў Зялёным Лузе. Каб выпіць культурна, у дамашніх умовах.

Прыехалі. Гаспадыня з сяброўкай Кацяй збіралася на дзень нараджэння. Пакуль жанчыны прыхарошваліся, мужчыны куляли кілішкі і вялі гамонку аб жыцці-быцці. Андрэй зусім раскіс, пачаў скардзіцца. Хочацца прыдбаць новы легкавік, бо яго ўжо вельмі стары і нямодны. А грошай няма. Праблема захапіла ўсіх прысутных, якія падключыліся да абмеркавання тэмы: «Як знайсці грошы?»

— Што тут ламаць галаву? — прыкладна так сказала адна з жанчын. — Знайсці каго з поўнымі кішэнямі, ды пачаставаць лекамі, каб захроп на некалькі гадзін. Пачысціць, потым адвесці ў які скверык — і хутка, і не рызыкоўна.

Ідэя так захапіла ўсіх, што тут жа пачалі яе ажыццяўленне. Каця збегала ў аптэку, купіла нейкія таблеткі, патаўкла іх і размяшала ў напітку. Так быў створаны цудадзейны «ліманад».

Жанчыны адправіліся на дзень нараджэння, а мужчыны паехалі на Камароўку шукаць кліента з грашамі. Там пазнаёміліся з грамадзянінам Г., які прыехаў гандляваць з Поўдня. Нейкім чынам дамовіліся. Каля шасці гадзін вечара прыехалі ў Зялёны Луг. Людзі снавалі сюды-туды — хто ў магазін, хто ў кіно. Ніхто, бадай, і не звярнуў увагі на трох мужчын, што ўваходзілі ў пад'езд, двое з якіх ужо былі ў падпітку.

У кватэры Ірыны выпілі. Гаспадары настойліва частавалі госця фірменным «ліманадам». Хутка той, што называецца, «паехаў» — млявасць і ўсё такое. Але сон усё ж не валіў. Ці то таблеткі не тыя, ці канцэнтрацыя слабая. Калі каўказец падаўся ў туалет, Андрэй крутнуў да адказу ручку тэлевізара і той заспяваў на ўсю кватэру. Затым вырваў з дывана падлакотнік і, падкраўшыся ззаду, цэліў госцю па галаве, калі той выйшаў у калідор. Але прамазаў і ўляпіў па шыі. Затым яшчэ раз. Той упаў. Сябрукі сталі шарыць па кішэнях. Ахвяра брыкалася. Пачалі біць нагамі — па грудзях, жывату, галаве. Алік падскокваў і нагамі апускаўся на грудзі. Душылі.

Смерць надышла хутка. Ачысцілі кішэні. Знайшлі паўтары тысячы. Труп абкруцілі прасцінай і запіхалі пад ложак.

Тут зазвінеў тэлефон. Ірына паведамляла, што сярод гасцей ёсць багацей. Прыехалі. Даведаўшыся, што хлопцы на легкавіку, чалавек з каўказскім акцэнтам папрасіў падкінуць на вакзал, маўляў, спяшаецца на калінінградскі поезд. А тым таго і трэба было. Прывезлі ў лес каля Зялёнага Луга. Каўказец, відаць, скеміў, кінуўся ўцякаць. Дагналі, зрабілі падсечку... і нагамі па тулаву, манціроўкай па галаве. Ён вырваўся і зноў наўцёкі. Раз'юшаныя выпівакі за ім. Паваліі і дабілі. З кішэні вытраслі больш трох тысяч. Труп падвезлі да Цнянскага вадасховішча і ўтапілі.

Уся кампанія сабралася на кватэры Ірыны. Каб займець алібі, вырашылі кацiць у вёску. Вынеслі труп з-пад ложка ў машыну, памылі падлогу. Нябожчыка затым апусцілі на дно вадасховішча «Дразды».

— А куды падзелі таго? — пацікавілася гаспадыня кватэры.

— Таксама на дне.

— Дзе?

— Каля Цны.

— Вы што? Побач з домам? Давайце перавозіць.

Згадзіліся. Дасталі труп з вады, запіхнулі ў багажнік, і машына ўзяла курс на Барысаў. Выкінулі ў рэчку Гайна.

Прыпыніліся, каб размяцца. Андрэя і Аліка насцярожыла сяброўка Ірыны — Каця. Злуецца, што на «мокрую» справу пайшлі. Ды і ведае зашмат. Словам, непажаданы сведка. «Трэба ўбіраць», — згадзіліся абодва.

Прапанавалі Каці сесці наперадзе. Алік ззаду, за ёй. Ён прыгатаваў ужо электраправад, які адшукалі ў багажніку. Машына не паспела набраць хуткасць, як ён накінуў той провад на Кацін шыю і здавіў з усяе сілы. Трэцюю ахвяру ўтапілі ў рацэ.

...Гарадскі суд прыгаварыў Аліка да пакарання смерцю, Андрэя і Ірыну да працяглага турэмнага зняволення.

Загублены тры чалавечыя жыцці, зламаны яшчэ тры лёсы. І дзеля чаго? З-за чатырох-пяці тысяч рублёў? Якім жа танным становіцца чалавечае жыццё!

І ўсё ж чаму такое магчыма? Тым больш, што ўчынілі гэта страшнае злачынства не адпетыя забойцы. Першапачатковы план зусім не прадугледжваў такога абароту.

Мы, безумоўна, не раз назіралі такі малюнак. Грэецца вада. Яна становіцца ўсё цяплейшай і цяплейшай, гарачай... Непрыкметна павышаецца яе тэмпература. І калі яна дасягае крытычнай адзнакі — сто градусаў, вада ператвараецца ў пару, прынцыпова новы стан. Альбо капае кран, батарэя... Гаспадыня падставіла вядро. Цурболіць паціху вадзіца. А прамаргаеш — перальецца цераз край апошняя кропля, затопіш суседзяў...

Ёсць і звычкі, рысы характару, якія пры пэўных акалічнасцях імгненна ператвараюць чалавека ў драпежніка.

Дзе ў нашай гісторыі тая апошняя кропля, што падштурхнула кампанію да забойства?

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

